

НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА ШУМІЛІНШЧЫНЫ

# СЬВІТАНАК

Беларусь,
твой народ
дачакаецца
Залацістага,
яснага дня!
М. Багдановіч.

№10 (228) ЛІПЕНЬ 2017 ГОД


У ЦЭНТРЫ ЎВАГІ

## ДЗВЕ ТЫСЯЧЫ ДАЎЖНІКОЎ ЗА КАМУНАЛКУ

**По стану на 1 ліпеня ў Шумілінскім раёне абслугоўваюцца 9 тысяч 200 асабістых рахункаў карыстальнікаў камунальных паслуг, з іх амаль 2 тысячы – даўжнікі. А доўг па камунальных плацяжах дасягае амаль 190 тысяч рублёў(!).**

Сярод неплацельшчыкаў ёсць як тыя, хто забыў заплаціць за мінулы месяц, так і тыя, у каго даўгі цягнуцца месяцамі.

Што зараз робіцца і якія меры прымаюцца адпаведнымі службамі па зніжэнні сумы доўгу і змяншэнні колькасці неплацельшчыкаў?

Як вядома, у нашай краіне выпрацавана пэўная сістэма мер барацьбы з неплацельшчыкамі. Практыкуецца некалькі спосабаў прымусу грамадзян своечасова разлічвацца за камуналку – ад папярэджання да высялення з кватэры».

Спачатку даўжніку выпісваецца папярэджанне аб наяўнасці запазычанасці і магчымых наступствах пры нявыплаце. У папярэджанні агаворваецца і патэнцыйнае адключэнне ад камунальных паслуг. На сённяшні дзень адпраўлена 1970 такіх папярэджанняў.

На другім этапе, калі першы не дасягнуў вынікаў, афармляюцца натарыяльныя надпісы і адпраўляюцца ў суд для прымусовага спагнання доўгу з зарплат і пенсій – з усіх даходаў даўжніка

Зараз у судовых выканаўцаў маецца каля 400 выканаўчых надпісаў на суму каля 50 тысяч рублёў, у тым ліку каля 80 выканаўчых надпісаў накіравана па месцы атрымання даходу даўжніка. Між іншым, заканадаўствам прадугледжана ўтрыманне да 50% з даходу.

Пасля гэтага злосным неплацельшчыкам адключаюць святло, халодную і гарачую ваду.

На 1 ліпеня накіравана 210 хадайніцтваў на суму звыш за 13 тысяч рублёў аб адключэнні ад камунальных паслуг больш за 100 сямей.

І гэтая мера не заўсёды дае вынік, хаця лічыцца даволі эфектыўнай. Праўда, камунальнікі не ідуць на такія меры, калі ў сям'і ёсць непаўналетнія дзеці, чым і карыстаюцца нядобрасумленныя людзі.

Яшчэ існуе крайняя і самая сур'ёзная мера – высяленне. Прэцэдэнты, у тым ліку і ў Шуміліне, усё ж такі ёсць. Аказваецца, не ўносячы плату за кватэру, можна яе пазбавіцца, нават калі яна ваша асабістая, прыватызаваная. Згодна з арт. 86 Жыллёвага кодэкса з кватэры могуць быць выселены грамадзяне, наймальнікі жылога памяшкання дзяржаўнага жыллёвага фонду, а разам з імі і члены сямей, якія маюць без уважлівых прычын шасцімесячную запазычанасць па аплаце за жыллёва-камунальныя паслугі і плаце за карыстанне жылым памяшканнем. Тут рашэнне прымае суд. Ён жа дае ўласніку кватэры год на тое, каб разлічыцца па рахунках. Даўжнікам прадастаўляецца іншае памяшканне меншай плошчы ці якое саступае ранейшаму па спажывецкіх якасцях, напрыклад, там можа не аказацца тых ці іншых камунальных даброт. Магчыма, такое жыллё будзе размешчана нават за межамі райцэнтра.

А можна наогул за даўгі застацца на вуліцы, без даху над галавой. Заканадаўствам цяпер прадугледжана і высяленне злоснага неплацельшчыка без прадастаўлення жылля.

Часта прычынай неплацяжу становіцца цяжкае фінансавае становішча ў сям'і: адны згубілі работу, другія цяжка і доўга хварэлі. Даўжнік павінен прывесці пераканаўчыя довады і даказаць дакументальна, што ён трапіў у складаную жыццёвую сітуацыю. Па кожным канкрэтным выпадку прымаецца рашэнне райвыканкама».

**А. Прылуцкі**

**ПАРТАЛ ТВАЙГО ГОРАДА: HTTP://SHUMILINA.BY**

НАША ГІСТОРЫЯ

## УШАНАВАЛІ ПАМЯЦЬ РАССТРАЛЯНЫХ ВЯЗНЯЎ

**У вёсцы Мікалаева пад Вулай Шумілінскага раёна ўшанавалі памяць расстраляных вязняў Глыбоцкай турмы «Беразвечча». У 1941 годзе на дарозе ля гэтай вёскі службоўцы НКВД расстралялі калону зняволеных, якіх перамяшчалі на ўсход. Загінула да 2 тысячаў чалавек.**

Згодна з архіўнымі дакумэнтамі, на пачатку вайны было прынятае рашэньне эвакуаваць усіх вязьняў з заходніх рэгіёнаў углыб СССР. Калона, якая выйшла з Глыбокага 24 чэрвеня 1941 году, рухалася ў бок Полацку. Двое сутак людзей гналі па сьпёцы бязь ежы і піцьця, пакідаючы на дарозе трупы — тых, хто знямогся і адставаў, расстрэльвалі на месцы або закалвалі штыхамі.

Каля Вулы калона трапіла пад фашыстоўскі авіяналёт, а потым турэмны канвой яе расстраляў. Якраз тады выйшаў загад, каб зняволеных, якіх вывелі з турмаў, або выкарыстоўваць на абарончых працах, або адразу расстрэльваць. Асабліва «палітычных» — каб не было лішняга клопату.

У Беразвецкай турме былі жыхары Глыбоччыны, Міёршчыны, Браслаўшчыны, Пастаўшчыны, палонныя жаўнеры Войска Польскага, святары, моладзь, якая ўдзельнічала ў розных арганізацыях — палітычных, грамадзкіх, рэлігійных. Нехта трапіў за краты праз даносы або па падазрэньні ў нелаяльнасці да савецкай улады. Большасьць складалі нават не асуджаныя, а толькі падследныя.

Па розных звестках, уздоўж дарогі, на ўзлеску каля вёскі Мікалаева загінулі ад 800 да 2 тысяч чалавек. Хаваць забітых загадалі вяскоўцам.

Адзін толькі начальнік турмы «Беразвечча» Прыёмышаў, які ўзначальваў канвой, пасля казаў, што асабіста расстраляў каля 600 чалавек. Сакратар ЦК КП(б) Панцеляймон Панамарэнка, які вывучаў матэрыялы справы аб расстрэле беразвецкіх вязняў, прызнаў дзеяньні кіраўніка канвою слушнымі.

У Мікалаеве трагедыю памятаюць і дагэтуль. Да нядаўняга часу былі жывыя сведкі тых страшных падзей. Пра гэта згадаў біскуп Віцебскі Алег Буткевіч, які з 2001 па 2003 гады выконваў абавязкі пробашча парафіі ў Бешанковічах і Вуле, часта прыязджаў і ў Мікалаева. На ўгодкі Беразвецкай трагедыі ён адслужыў імшу за памерлых і загінулых, на якую сабраліся і мясцовыя вернікі, і грамадзкія актывісты зь Віцебску ды Мінску

Звяртаючыся да прысутных, біскуп Алег Буткевіч падкрэсьліў, што ахвяры Беразвецкай трагедыі сышлі з гэтага сьвету праз чалавечую несправядлівасьць:

«На гэтым жалобным месцы трэба шторазставіцьпытаньне:чамуўгісторыі адбываліся і цяпер адбываецца такая несправядлівасьць, якая вядзе да загубы людзкога жыцьця. І як адказ на гэтае пытаньне варта сцвердзіць, што да несправядлівасьці, да забойства чалавека чалавекам вядзе памылковая ідэалёгія. Памылковае ўяўленьне пра тое, кім ёсьць чалавек, і пра вартасць чалавечага жыцьця, пра прызначэньне чалавека. А калі далей ісьці за гэтым пытаньнем, то робіцца зразумелым, што часам мы не шукаем праўды, а ідзем за тым, куды клічуць».

— Атэістычны рэжым адмаўляў існаванне Бога, за гэтым пазней ідзе і ўяўленне пра жыццё чалавека, пра ягоную сутнасць, пра, у рэшце рэшт, годнасць чалавека. Тады ўзнікаюць такія моманты, калі жыццё чалавека не шануецца. У жыхароў гэтай парафіі гэтая памяць вельмі жывая. Я сустракаў людзей, якія памяталі той час, тыя падзеі. Яны распавядалі як гэта адбывалася. Гэтая памяць не знікае.

Пасля Багаслужбы выступіла некалькі чалавек, а сярод мясцовых парафіянаў знайшліся асобы, якія, пераказваючы словы сваіх бацькоў, распавялі пра злачынствы НКВД: — Мая родная сястра нават вазіла коньмі гэтых забітых цэлы тыдзень. Уся дарога ад моста да нашага скрыжавання пяці дарог была ў крыві. Была рака крыві. Жахліва было.

Пасля імшы да прысутных звярнуўся Вячаслаў Сіўчык, лідэр руху салідарнасці «Разам». Ён усклаў кветкі да мэмарыялу, узведзенага ў Мікалаёве пры дапамозе польскіх грамадзкіх і рэлігійных арганізацый. Гэта сымбалічная камэра з чорнымі кратамі, брукаванка і доўгая бетонная пліта ўздоўж яе, якая сымбалізуе страшны шлях вязьняў. Тут жа ўсталяваны высокі крыж, каля якога моляцца за забітых.

Выступае Вячаслаў СіўчыкНамесніца старшыні райвыканкаму Ірына Шалахава

Следам за спадаром Сіўчыкам выступіла намесніца старшыні Шумілінскага райвыканкаму Ірына Шалахава, якая ў агульных словах пажадала ўсім міру. Слова браў і стваральнік ініцыятывы «Хайсы — «Віцебскія Курапаты» Ян Дзяржаўцаў. Напрыканцы ўсе прысутныя праспявалі гімн «Магутны Божа».

**Ян Вайтовіч**

ЖНІВО

## КАМБАЙНЫ ЎСЁ НА КАЛОДКАХ

**Гатоўнасць збожжаўборачных камбайнаў на Шумілішчыне да жніва на 20 чэрвеня складала 32% адсоткі пры неабходнасці 95.**

Спее нядрэнны ўраджай, асабліва рапсу, і намалоты чакаюцца ніяк не ніжэй леташніх. Таму камбайны і сушыльнае абсталяванне ў адпаведнасці з пастановай Саўміна неабходна было падрыхтаваць да 20 чэрвеня. Аднак, планы, як занадта часта ў нас здараецца, так і засталіся на паперы.

Прычын таму нямала. Мала грошай, маларамонтнікаў, нехапаемеханізатараў, шмат арганізацыйных і іншых пралікаў. Калі іх не ліквідаваць, кожная адаб'ецца на тэрмінах і якасці жніва.

Страты можна скараціць за кошт своечасовага і якаснага рамонту камбайнаў. Але калі рабіць гэта спехам, перад выхадам у поле, наўрад ці можна разлічваць на безперабойную іх працу. У мінулым годзе, напрыклад, на ўборцы кожны чацвёрты камбайн у краіне апынуўся не ў полі. Уключы іх у працу – і жніво скончылася б раней.

Сёння сітуацыя ў Беларусі не лепш. На 20чэрвенягатоўнасцьзбожжаўборачных камбайнаў па рэспубліцы складала 67, зернеачышчальна-сушыльных комплексаў – 77 адсоткаў. У Драгічынскім раёне, напрыклад, на той час да працы гатовы былі прыступіць 73, Іванаўскім – 70, Ваўкавыскім – 35, Воранаўскім – 33, Сенненскім – 35, Шумілінскім – 32, Быхаўскім – 21 працэнт камбайнаў. Менш за 70 працэнтаў іх гатоўнасць складала ў

***(працяг на стр. 2)***

ЖНІВО

*(пачатак на стр. 1)*
21 раёне Віцебскай вобласці, у 15 – Гродзенскай, а 17– Мінскай. Пры ўсім жаданні якасна аднавіць і паставіць іх усё на лінейку гатоўнасці своечасова не атрымаецца.

Чаму сітуацыя паўтараецца з годуўгод?Прычынаненовая.Для падрыхтоўкі збожжаўборачнай тэхнікі да жніва патрабавалася 86 мільёнаў рублёў, накіравана толькі 33 мільёны. Асобныя працы можна было выканаць у асенне-зімовы перыяд, прычым танней, чым у траўні-чэрвені. Але тады з грашыма таксама было туга. Часткова задзейнічаны і патэнцыял аграсэрвісных арганізацый. У выніку маем тое, што маем. У Брэсцкай вобласці, напрыклад, з 60 пастаўленых камбайнаў на сярэдзіну мінулага месяца адрамантавана 87 адсоткаў, у Віцебскай – 25, Мінскай –26 адсоткаў.

**sb.by/belniva**
**Пераклад з расейскай рэдактара**

КОНКУРС

# АДБЫЎСЯ КОНКУРС «АЎТАЛЕДЗІ-2017»

**Конкурс «АўтаЛэдзі-2017», які ладзіўся ў нядзелю на гарадской плошчы Шуміліна з нагоды Дня моладзі, паказаў, што маладыя жанчыны-вадзіцелі ўпэўнена трымаюцца за руль сваіх аўто. Такі конкурс праводзіўся ўпершыню. Але ўжо заўважана, што ахвотніцы прадэманстраваць свой спрыт і навыкі знойдуцца.**

Адкрываючы мерапрыемства,старшыняжурынамеснік старшыні райвыканкама Ірына Шалахава звярнулася да ўсіх маладых людзей з пажаданнямі шчасця і кахання.

У конкурсе пажадалі прыняць удзел 7 маладых і прыгожых дзяўчат са стажам ваджэння ад трох да пяці год. Іх аб'ядноўвала не толькі жаданне перамагчы, але яшчэ і прадэманстраваць, што нашы жанчыны – выдатныя кіроўцыаўто.Паўсямубачна,што ўсе яны любяць свае машыны, лёгка імі кіруюць і здатныя на многае. Першы ж конкурс – фігурнае ваджэнне паказаў, што ўдзельніцы справіліся як віртуозы кіравання. Пры гэтым ніводзін конус не быў зачэплены і ні адна машына не заглухла, а ўсе дзяўчаты ўмеюць заязджаць у гараж заднім ходам. За гэтым строга сачыла журы, сярод якіх былі інспектары ДАІ.

Яшчэ спаборніцтвы паказалі трываласць тэарэтычных ведаў маладых вадзіцеляў. У прыватнасці, як яны здолны аказацьмедыцынскуюдапамогу пацярпелым.

Бадайшто,самымвідовішчным быў творчы этап конкурсу. І калі ў будні сваё аўто банцікамі ды аборкамі ніхто не ўпрыгожвае, то ў гэты дзень было дазволена ўсё .

Таму шумілінскія дзяўчаты апраналі аўто ў капялюшыкі, прымяралі касцюм леапарда, і нават ператварвалі любімую машыну ў самалёт.

Па выніках усіх этапаў конкурсу кожнай удзельніцы была прысуджана пэўная намінацыя. «АўтаЛэдзі-2017» стала Ірына Дзягілева. Сардэчна віншуем!

**У. Амбросаў**

ФУТБОЛ

# ЧАРГОВАЯ ПЕРАМОГА

**У нядзельнай сустрэчы напрыканцы траўня ФК «Шуміліна» на сваім полі прымаў гарадоцкі «Прамень- Кров СВ». У хатнім матчы нашы футбалісты абыгралі гарадоцкіх гасцей з лікам 4:1.**

З самага пачатку шумілінцы атакавалі вароты сапернікаў, ужо на другой хвіліне мяч пабываў у сетцы варот гасцей – вызначыўся Артур Гугін. Пасля прапушчанага мяча каманда "Прамень-Кров СВ" выраўнавала гульню, і абаронца Ілля Калтуноў зраўняў лік.

Але дасягнуць большага гарадоцкім гульцам ужо не атрымалася. Пад самую заслону першага тайма шумілінскія футбалісты выйшлі наперад пасля гола Сяргея Фінашына на 41 хвіліне.

А ў другой палове матча да вялікай радасці балельшчыкаў нашай сборнай лік да сярэдзіны тайма стаў 4:1. Пры гэтым яшчэ два галы забілі Вадзім Жалноў і Андрэй Шантур. Акрамя таго, «дванаццаты гулец» і на гэты раз як ніколі ўдала ўзмацніў баявы дух ФК «Шуміліна». Другая перамога дазволіла ФК «Шуміліна» ўзначаліць групу «Б».

**Алесь Прыбярэжны**

ПРАДПРЫМАЛЬНІЦТВА

# ЖАНОЧАЯ СПРАВА

**Бізнес аб'яднаў эканамічную адукацыю і творчую натуру прадпрымальніцы з Шуміліна.**

Адкрыць сваю справу Святлану Сталярову пераканаў муж. У свой час ён павёз яе з Шуміліна да сябе ў Палтаўскую вобласць. Пазнаёміліся на адпачынку ў Крыме, а праз паўтара месяца малады чалавек прыехаў за дзяўчынай на Віцебшчыну. Разам яны ўжо 10 гадоў. Спачатку жылі ў Украіне, але там былі цяжкасці з уладкаваннем на працу, і маладая сям'я прыняла рашэнне перасяліцца на радзіму Святланы.

Як сапраўдны джэнтльмен, муж прапусціў жанчыну наперад, і прыватнае прадпрымальніцтва аформілі на Святлану. На ёй уся тэхнічная праца, на мужу – тэхнічная. Эканамічная адукацыя спатрэбілася пры афармленні розных дакументаў, запаўненні дэкларацый, у гэтай справе Святлана дапамагае і іншым прадпрымальнікам.

Каб раскруціць бізнэс, прыйшлося прадаць аўтамабіль. Пачыналі з малога: невялікага пакоя ў 10 кв. м, узятага ў арэнду, фотаапарата і друкаркі. За шэсць гадоў сталі на ногі, пераехалі ў больш прасторнае памяшканне, набылі тэхніку, зноў купілі машыну, без якой у іх справе не абыцца.

–Мы пастаянна пашыраем паслугі, часта ідэі падказваюць самі кліенты. Пытаюцца, ці можам мы адно рабіць, іншае. Стараемся задавальняць попыт. Тым больш, што ў гэтай сферы мы адзіныя ў гарадскім пасёлку, – тлумачыць Святлана Сталярова.

Такім чынам, акрамя фатаграфавання,сталізаймацца продажам канцтавараў, рамак і інш. Адна з кліентак папрасіла аформіць генеалагічнае дрэва, іншая – аўтабіяграфічны фотаальбом на юбілей сына. Ёсць заказы ад мясцовага музея, ветэранскай арганізацыі, райвыканкама: то зрабіць партрэты для Дошкі гонару, то біркі для музейных экспанатаў, то прэзентацыі праектаў грамадскіх арганізацый.

- На нашых вачах сталеюць дзеці. Фатаграфуем іх пасля радзільні, затым у годзік, тры, пяць гадоў. Дзякуючы сваёй працы я знаёмлюся з людзьмі, даведаюся свой край, атрымліваю масу станоўчых эмоцый, – дзеліцца ўражаннямі Святлана.

І дадае, што кожны дзень з радасцю ідзе на працу. Цяпер яна ўдзячна мужу, які настаяў на тым, каб адкрыць свой бізнес, і сёння ва ўсім падтрымлівае яе. Цяпер ёсць планы пашырацца, стварыць павільён для здымак мастацкай фатаграфіі.

Любая справа, па перакананні Святланы Сталяровай, можа быць жаночай, нават рамонт аўтамабіляў. Галоўнае, каб да гэтага ляжала душа. А сама яна ўсё робіць ад душы: і працуе, і выраблае кветкі з стужак, і пячэ смачныя тарты для любімага мужа.

**vitvesti**
**Пераклад з расейскай рэдактара**

ЗДАРЭННІ, КРЫМІНАЛ

# НАПАЛА НА МІЛІЦЫЯНТА

**У райаддзел унутраных спраў патэлефанавала жанчына і паведаміла, што ў вёсцы Лажок яе збіў сужыцель. На месца здарэння аператыўна выехаў нарад, каб затрымаць падазраванага. Да здзіўлення праваахоўнікаў, сяльчанка, якая звярнулася да іх па дапамогу, стала абараняць свайго крыўдзіцеля словамі і нават ўдарыла аднаго з міліцыянераў нагой у галаву.**

У дачыненні да нападніцы распачалі крымінальную справу па прыкметах складу злачынства, прадугледжанага артыкулам 364 КК Рэспублікі Беларусь – гвалт у дачыненьні да супрацоўніка АУС з мэтай перашкодзіць яго законнай дзейнасці, паведаміў пракурор аддзела па наглядзе за выкананнем заканадаўства УСК па Віцебскай вобласці Васіль Якаўлеў.

Як аказалася, яна раней была неаднаразова судзімая, у тым ліку за забойства, пазбаўленая бацькоўскіх правоў у адносінах да двух дзяцей, па месцы жыхарства і працы характарызуецца адмоўна, злоўжывае спіртнымі напоямі.

Абвінавачаная сваю віну не прызнала, але суд, даследаваўшы сабраныя доказы, прызнаў яе вінаватай і прызначыў пакаранне ў выглядзе пазбаўлення волі тэрмінам на 1,5 года з адбываннем у папраўчай калоніі ва ўмовах агульнага рэжыму і прымусовае лячэнне ад алкагалізму.

**Сяржук Крупскі**
**паводле uvd.vitebsk.gov.by**

ІНТЭРНЭТ-ТЭХНАЛОГІІ

# ЯК У СІРОЦІНЕ АСВОІЛІ СМАРТФОНЫ

**У адных з самых «балбатлівых» і інтэрнэт-актыўных вёсках Беларусі кіпіць жыццё рэальнае і віртуальнае: да старых на лета высылаюць ўнукаў, па грунтоўках «пыхкаюць» пузатыя аўталаўкі, а смартфоны і камп'ютары практычна не змаўкаюць.**

Калі верыць статыстыцы velcom, то кожны мясцовы жыхар з ліку абанентаў размаўляе па тэлефоне па 15 гадзін у месяц і выкарыстоўвае 31 Гбайт інтэрнэт-трафіку. У вёскі-рэкардсмены зазірнула «Час пераменаў» – сумесны з velcom праект, у якім распавядаецца аб тым, як новыя тэхналогіі змяняюць звыклую беларускую рэальнасць. Высветлілася, як некалі, бадай што, пустыя вёскі пагрузіліся ў онлайн і што з гэтага выйшла.

Да прыкладу, на сённяшні дзень у Сіроціне пражывае 256 чалавек, і ўсе яны жудасна таварыскія – па тэлефоне ў сярэднім размаўляюць 918 хвілін (больш за 15 гадзін!) у месяц. Каб было больш зразумела, гэта амаль у 5 разоў больш, чым у іншых вёсках краіны.

Бібліятэкар Алена Апанасаўна таксама не з маўклівых, а вось з інтэрнэтам на «вы». Тым не менш, калі дачка зарэгістравала яе ў «Вконтакте», жанчына пачала актыўна карыстацца сацсеткамі. Але з дзецьмі аддае перавагу мець зносіны голасам.

Пасля аб'яднання калгасаў вялікая частка людзей перабралася ў аграгарадок Слабада, а Сіроціна ператварылася ў маленькае ўтульнае месца для жыцця. Юлія шпацыруе з каляскай і яшчэ трыма дзецьмі, цалкам задаволеная. Яе муж працуе ў Шуміліне, у 10 кіламетрах ад Сіроціна, на птушкафабрыцы, дзе выраблаюць бройлерных курынят. Зарплата там – каля 1000 рублёў.

Старшыня Сіроцінскага сельсавета Сяргей Коржуеў лічыць, што ў Віцебскай вобласці сапраўды актыўна карыстаюцца мабільнай сувяззю і інтэрнэт-тэхналогіямі. Шмат у каго сваякі жывуць або працуюць у Расіі, і існаванне розных мессенджераў выдатна палягчае зносіны з сям'ёй. Так што словы пра тое, што Сіроціна - адна з самых «гаваркіх» вёсак, маюць права на жыццё.

– Дзеці прыязджаюць, тлумачацьіпаказваюцьбацькам, як карыстацца смартфонам або планшэтам – вось мы і гаворым. Я сам асабіста шмат размаўляю па тэлефоне. З жонкай мы на тэлефон і тэлебачанне трацім каля 45 рублёў у месяц. Напэўна, мы не самыя гаманкія, але мяркуючы па статыстыцы, не адстаем ад жыхароў іншых вялікіх населеных пунктаў, – жартуе Сяргей Уладзіміравіч.

**Алесь Прыбярэжны**

## АБ'ЯВА

*• Каб атрымліваць кожны нумар газеты «Світанак» паведаміце рэдакцыі аб гэтым–зрабіцебесплатную падпіску. Калі не жадаеце атрымліваць газету, то патэлефануйце.*

*• Калі прачыталі “Світанак”, то калі ласка, перадайце знаёмым.*

*• Наша газета стала размяшчаецца на партале http://kamunikat.org, дзе зацікаўленыя грамадзяне могуць яе спампаваць са старонкі: http://kamunikat.org/svitanak.html для далейшага выкарыстання яшчэ да з'яўлення газеты на паперы.*

БЕЛАРУСКІ ПАРАДОКС

# СІЛА ДЗЯРЖАВЫ — ПРЫЧЫНА ЯЕ СЛАБАСЦІ

**Ужо 23 гады мы жывём ва ўмовах пераходнага перыяду. Незразумела толькі, адкуль і куды пераходзім. Ніводзін даклад адзінага палітыка (АП) на Усебеларускіх народных сходах не абышоўся без разваг пра моцную ўладу і моцную дзяржаву.**

Згодна з папулярным у часы маёй маладосці анекдотам, сіла савецкіх сталявараў — у плаўках. А ў чым сіла беларускай улады і дзяржавы?…

**Замест кансалідацыі — раскол**

Базавай ідэнтычнасцю большасці беларусаў у год «найвялікшай геапалітычнай катастрофы XX стагоддзя» была ідэнтычнасць чалавека савецкага. Сярод яе галоўных характарыстык Юрый Лявада вылучаў прымусовую самаізаляцыю, дзяржаўны патэрналізм, эгалітарысцкую (ад французскага «égalité» — «роў¬насць») іерархію і імперскі сіндром.

Аднак на момант здабыцця дзяржаўнай незалежнасці ідэнтычнасць савецкага чалавека не была ў Беларусі адзінай. Ёй супрацьстаяла ідэнтычнасць мадэрнізаванай часткі беларускага грамадства, аснову якой складалі маладыя і адукаваныя жыхары буйных гарадоў. Апытанні НІСЭПД дазваляюць ацаніць суадносіны носьбітаў двух тыпаў ідэнтычнасці прыкладна як 7 да 3.

Апынуўшыся ў несавецкіх умовах, чалавек савецкі паспрабаваў вярнуцца ў звыклае яму мінулае, а яго апаненты пачалі прарывацца ў светлую капіталістычную будучыню — дакладней, у сваё міфалагізіраванае ўяўленне пра яе. У выніку замест кансалідацыі грамадства адбыўся яго раскол. Такім чынам, свае і чужыя аказаліся «ў адным флаконе».

На першых і апошніх дэмакратычных прэзідэнцкіх выбарах у Беларусі, натуральна, перамог кандыдат большасці, перамог кандыдат носьбітаў савецкай ідэнтычнасці. Прывяду афіцыйную інфармацыю, запазычаную на сайце Цэнтрвыбаркаму (rec.gov.by). Яна з часоў да Ярмошыная — таму цалкам можна даваряць. У першым туры пры яўцы 79,1% за будучага АП прагаласавалі 44,82%, у другім туры адпаведныя паказчыкі склалі 70,6% і 80,34%.

З дапамогай калькулятара лёгка падлічыць, што трыумфатару тытул «усенароднаабраны» забяспечыла падтрымка 56,7% ад спісачнай колькасці выбаршчыкаў, г.зн. крыху больш за палову.

АП сваіх выбаршчыкаў не падвёў. Закасаўшы рукавы, ён пачаў шырокімі мазкамі аднаўляць звыклую для большасці карціну свету, галоўным элементам якой стала ўладная «вертыкаль». Працэс заняў два гады. Яе афіцыйны прыём у эксплуатацыю быў аформлены на другім канстытуцыйным рэферэндуме ў лістападзе 1996 года.

Мабілізацыя на барацьбу з ворагам звонку кансалідуе і аб'ядноўвае грамадства вакол моцнага лідара. Аднак дамагчыся такога эфекту пры адсутнасці знешняга ворага — задача прынцыпова іншага парадку. Як правіла, назіраецца адваротная карціна: перамога на выбарах моцнага лідара расколвае грамадства, і мяжа паміж сваімі і чужымі фарміруецца ўнутры краіны.

**Аналагі пленума ЦК**

«У нас вельмі моцная прэзідэнцкая ўлада, сапраўды, з элементамі аўтарытарызму, у гэтым я заўсёды сумлення прызнаваўся. Такая ў нас Канстытуцыя і законы ў гэты пераходны перыяд», — заявіў АП 23 верасня 2004 года. Аднак няма нічога больш пастаяннага, чым часовае, як сцвярджае прыказка.

У 1945 годзе Японія ляжала ў руінах пасля паразы ў вайне, а праз 19 гадоў у краіне прайшлі летнія Алімпійскія гульні. Але пераходнаму перыяду ў Беларусі не відаць канца. Адна з прычын, чаму пераход зацягнуўся, — няздольнасць моцнай дзяржавы вызначыць кірунак руху. Рэкамендую чытачам НЧ задаць бліжэйшым знаёмым адпаведнае пытанне. Не ўпэўнены, што хаця б 1 з 5 зможа адказаць што-небудзь зразумелае.

14 сакавіка АП заявіў аб падрыхтоўцы пашыранага мерапрыемства па абмеркаванні сітуацыі ў эканоміцы пасля атрымання дадзеных за І квартал. 21 красавіка, выступаючы са штогадовым пасланнем, ён удакладніў: справаздача ўрада адбудзецца бліжэйшым часам «з удзелам нашых дэпутатаў і сенатараў, Нацыянальнага банка, усёй вертыкалі ўлады і кіраўнікоў найважнейшых арганізацый».

Белстат сваю працу выконвае спраўна. Рэальныя даходы беларусаў у І квартале працягнулі зніжэнне. Трэці год запар, між іншым. Не хаваю, мне б вельмі хацелася паглядзець у вочы носьбіту моцнай прэзідэнцкай улады і нагадаць яму, што ў Пасланні–2017 ён абяцаў узмацніць ціск на выканаўчую «вертыкаль».

Здавалася б, праводзіць нарады — гэта не дабівацца выканання прынятых рашэнняў. Аднак сёння можна смела канстатаваць фармаванне своеасаблівай традыцыі, пачатак якой быў пакладзены ў 2013 годзе. Нагадаю чытачам, што ў той год 10 снежня адбылася рэспубліканская нарада па пытаннях будаўнічай галіны. АП назваў яе знакавай падзеяй і прызнаўся, што мерапрыемства бачыцца аналагам пленума ЦК у савецкія часы.

Далей цытата: «...неабходна часцей, як мінімум раз на паўгода, збірацца ў такім складзе, каб на сістэмнай аснове даваць сігналы ўсяму грамадству пра праблемы, якія ўзнікаюць, і пра шляхі іх вырашэння». Адначасова АП заявіў, што такія нарады стануць нормай і будуць праводзіцца раз на паўгода. Былі анансаваныя і тэмы бліжэйшых пленумаў: праблемы ЖКГ і развіццё аграпрамысловага комплексу.

Як і абяцаў АП, сігналы аб праблемах беларусы сталі атрымліваць на рэгулярнай аснове, прычым не зверху, а знізу (ад жыцця). Вось толькі з інфармацыяй аб шляхах іх вырашэння перыядычна ўзнікаюць затрымкі, і гэта мякка сказана…

На працягу 23 гадоў пад сілай дзяржавы АП разумеў яе здольнасць не дапускаць узнікнення самастойных цэнтраў прыняцця рашэнняў не толькі ў палітыцы, але і ў эканоміцы. Трэба аддаць яму належнае: сваёй мэты ён дасягнуў. Вынік — прыпыненне развіцця. Таму сёння нават на ўзроўні абмеркавання незразумела, як можна дамагчыся нават лакальных паляпшэнняў унутры беларускай мадэлі.

*(скарочана)*

**Сяргей Нікалюк**
**"Новы Час"**




МАЛАЯ РАДЗІМА

# О ЧЕМ СТЫДЛИВО УМАЛЧИВАЮТ

**Включаешь государственные телеканалы и дивишься: Александр Лукашенко побывал с рабочей поездкой «в Витебской области». А в городском поселке Копысь на встречу с ним пришли люди из «ближайших населенных пунктов».**

— Встреча прошла в очень душевной и теплой атмосфере, — сообщает пресс-служба главы государства.

Во как все сформулировали!

Только тот, у кого все в порядке с памятью, понимает, что Лукашенко ни в Витебскую область поехал — а на свою малую родину. Навести «волшебство» в Копысе он поручил, не потому что поселок был заброшен, а потому что там родился (и этот вопрос его до сих пор волнует). А на встречу к нему пришли не с неизвестных деревень, а с родной Александрии, что находится тут же — через реку.

А почему об этом стыдливо умалчивают, тоже можно понять. Люди ведь что скажут: ну конечно, для своей родины он старается, тянет туда все лучшее, нам бы так.

Облагороженную Копысь обещают взять за образец и навести порядок в других городских поселках. Так а чего с Копыси, вполне себе благополучного поселка, начинали? Есть много населенных пунктов, где ситуация существенно хуже. Начали бы с Шарковщины — самого бедного региона страны по зарплатам.

Но на эти вопросы вряд ли кто-то из чиновников осмелится ответить. Ведь очевидно, почему Александр Лукашенко вновь и вновь возвращается в родные Александрию и Копысь.

Они остались едва ли не единственным местом в стране, где местные жители в большинстве своем благодарны ему за помощь и потому действительно его любят.

**Юлия Иванко**
**https://gazetaby.com**

РЫНАК ПРАЦЫ

# УВОЛИЛИ РЕКОРДНОЕ ЧИСЛО БЕЛОРУСОВ

**Противоречивая информация о состоянии белорусской экономики пришла в понедельник.**

Утром вице-премьер Василий Матюшевский заявил в парламенте, что Беларусь выходит на траекторию восстановления экономики, реальная зарплата растет третий месяц, в машиностроении зафиксирован самый низкий за 5 лет уровень складских запасов, сельхозорганизации демонстрируют улучшение финансовых показателей и т.д.

Казалось бы — живи и радуйся, в экономике победы на всех фронтах.

Но нет. Намного более впечатляющие цифры выдал Белстат. В мае предприятия уволили 62,6 тысячи человек, а взяли на работу на 14,4 тысячи меньше. Это худший показатель с мая прошлого года, пишет FINANCE.TUT.BY. Вообще же предприятия уже 7 месяцев подряд активнее увольняют, чем принимают новых работников.

И это при том, что весной Александр Лукашенко требовал трудоустроить буквально каждого. Некоторым тогда показалось, что уж такая-то задача будет правительству по плечу. Куда там.

«В объяснительных прогуль-щиков все стандартно: „Уехал в Россию на заработки" за подписью жены»

Впрочем, еще месяц назад стало очевидно, что с безработицей в стране происходит что-то не то. Андрей Кобяков на заседании Совмина поразился снижению занятых в регионах, хотя статистика по безработным причин для этого не давала: «К сожалению, судя по имеющейся информации, на местах так и не разобрались, где эти люди».

Кстати, кажется, кто-то догадывается, почему с предприятий стали «исчезать» работники.

В понедельник Василий Матюшевский рассказал, за счет чего можно обеспечить в стране зарплату в 1 000 рублей. Одна из озвученных мер — «оптимизация функций и численности работников при обеспечении высоких темпов роста производительности труда».

**Константин Похольчик**
**https://gazetaby.com**

ПАРАД

# БРОНЯ КРЕПКА, И ВАННЫ НАШИ БЫСТРЫ

**Власти в последние годы явно раскручивают праздник 3 июля, делая акцент на мотив независимости. Но пока получается довольно кондово... Парад 3 июля в Минске поразил богатством ассортимента. Перед трибуной с высоким начальством провезли все главные предметы отечественной гордости — от реактивных систем залпового огня «Полонез» до мясопродуктов и ванны производства ОАО «Керамин».**

**Лукашенко в духе генсеков КПСС обрисовал воинственный Запад**

Выступление Александра Лукашенко на параде в честь Дня Независимости напомнило речи советских вождей обрисовкой контраста между поползновениями Запада с одной стороны и нашей святой борьбой за мир — с другой.

«На путь милитаризации вступили страны Европы. Они втягиваются в гонку вооружений и военные приготовления. Соединенные Штаты Америки развертывают здесь, у наших границ, систему противоракетной обороны и совершенствуют свой ядерный потенциал», — заявил белорусский официальный лидер, облаченный в форму главнокомандующего. Далее он подчеркнул, что «вместе с братской Россией мы защищаем границы создаваемого нами Союзного государства», а с партнерами по ОДКБ и вовсе «защищаем мир от новых угроз».

На самом деле картина событий немножко отличается от этой манихейской схемы. Европа до Крыма вообще выглядела безалаберно и, несмотря на понукания Вашингтона, игнорировала натовский норматив — тратить не менее 2% ВВП на оборонные нужды. А роль жареного петуха, клюнувшего в известное место, выполнила для Запада именно аннексия украинского полуострова (да уж, Москва так рьяно защищала границы Союзного государства, что даже оттяпала кусок другого государства!).

Так что увеличение расходов стран НАТО на оборону, продвижение (правда довольно символическое) инфраструктуры альянса на восток — это уже ответ на тот вызов, который бросил Западу ближайший союзник официального Минска…

**Дефиле колбас и танец усатых тракторов**

Лично же мне «доставила» цивильная часть сегодняшнего дефиле. Это надо было видеть!

В конце мая президент распорядился, чтобы на параде были продемонстрированы и современные образцы гражданской техники, которые производятся в стране. Но в результате перед публикой и телекамерами провезли на колесах МАЗов целую ВДНХ: мебель, сантехнику, мясные консервы и пр.

И, кажется, я понял, почему это выглядит таким трэшем именно в сочетании с военным парадом. Боевая техника действительно создана для перемещения, у нее для этого есть колеса, гусеницы, крылья, реактивные двигатели — короче, атрибуты динамики. Могучее движение боевых машин с их особой хищной эстетикой у многих вызывает неподдельный трепет.

А вот когда на платформах тяжелых грузовиков везут то, что должно спокойно лежать на столе или стоять в углу, возникает комический эффект — именно от самого факта проезда мимо трибун с важными деятелями всех этих колбас, пивных бочек, диван-кроватей и (это апофеоз) сантехнических изделий. Хорошо хоть, что не додумались транспортировать акриловую ванну вертолетом и не посадили в нее мыться активистку БРСМ.

Ну и танец тракторов «Беларус» в соломенных брылях, нахлобученных на кабину, и с усами на капоте — при всем мастерстве сидевших за рулем тоже, пожалуй, зрелище на любителя (разве что музыкальное сопровождение в виде песни «Касіў Ясь канюшыну» было несомненным плюсом на фоне тотально русифицированного мероприятия).

И потом, показ боевой техники, если без обиняков, призван напугать потенциальных врагов, а кого мы мясопродуктами пугаем? Колбасы замедленного действия? Стиральные машины вертикального взлета?

**Мы не получим сильной армии при совковой экономике**

Да, я иронизирую, но и как достижения народного хозяйства это все — прошлый век. Сегодня рулят IT-технологии, а крутой софт отечественного производства на МАЗах не провезешь.

Авторы шоу пытаются сочетать несочетаемое.

Это как зеленый орнамент на красном фоне в оформлении прошедшего в столице накануне Дня вышиванки. Да, идеологически выверено, в цветах официального флага, однако это не белорусская традиция. Ну зачем так бояться «крамольного» бело-красно-белого сочетания, якобы подыгрывающего оппозиции? Это ведь просто исконные белорусские цвета.

Да и в целом стилистика очередного Дня вышиванки дала соцсетям новый повод появить на тему агротрэша. Я уж не говорю о такой безвкусице, как попытки совместить вышиванку с костюмами ушасто-рогатых бонстиков, что превращает мероприятие в совсем уж нелепый маскарад.

Если же возвращаться к военному параду, то задор боевых речей (типа: армия оснащена всем необходимым, дадим отпор любому агрессору) выглядит натужным. На самом деле мы увидели в основном подновленные образцы еще советской техники.

Да, белорусский оборонно-промышленный комплекс работает неплохо, особенно на фоне других отраслей. У него есть целая гамма настоящих новинок, но они рассчитаны в основном на экспорт. Нашей армии эти цацки элементарно не по карману. По причине экономического кризиса оборонный бюджет Беларуси скукожился до несчастного полумиллиарда долларов. Да партия Су-30СМ, которые мы собираемся закупить у России, дороже стоит!

И мы не получим сильной армии, пока в стране не будет сильной экономики. А она на сегодня остается во многом совковой. И это еще печальнее, чем совковые элементы официального праздника.

*(скарочана)*

**Александр Класковский**
**http://naviny.by**

ДЫСКУСІЯ

# МАНІФЭСТ РУСКАГА СЬВЕТУ…

**У гарачых дыскусіях на розных форумах пра парад і Дзень Незалежнасьці зьвярнуў на сябе ўвагу артыкул палітоляга Юрыя Шаўцова «Беларусь: независимая, европейская, русская», апублікаваны на сайце IMHOclub. Артыкул канцэптуальны. Гэта свайго роду маніфэст.**

Кажуць, што пра каштоўнасьці, як і пра густы, спрачацца ня варта, бо бессэнсоўна. Але тут гаворка ідзе не пра асабістыя, а пра грамадзкія каштоўнасьці, і, урэшце, пра будучую Беларусь.

Галоўны сэнс артыкула ў тым, каб апраўдаць выбар даты сьвяткаваньня Дня Незалежнасьці 3 ліпеня. Задача цяжкая і няўдзячная. Можа, гэтым тлумачыцца тое, што аўтар зьвяртаецца да стылю, які яму не ўласьцівы. Юры Шаўцоў хоць і праўладны палітоляг, але заўсёды імкнуўся выказваць падкрэслена акадэмічна, выкарыстоўваць аргумэнты з аналітычнага арсэналу. Але ў гэтым артыкуле ўсё інакш. Дэманструючы нянавісьць да нацыяналізму, ён пераходзіць да нейкага ляманту, выкарыстоўваючы рыторыку сумнавядомага прапагандыста БТ Яўгена Новікава ці нейкага дзіўнага пэрсанажа тэлевізійных ток-шоў Баравіка, які ў асноўным лаяўся і абражаў апанэнтаў.

Вось, напрыклад, Шаўцоў піша: «Беларусы адмовіліся саджаць сабе на шыю ілжывае і подлае ў самой сваёй сарцавіне сьвядомае кола». Альбо вось яшчэ: «3.07 як Дзень незалежнасьці — гэта яшчэ і пункт адмовы ад злога і жорсткага цемрашальскага вар'яцтва ўсходнеэўрапейскіх нацыяналізмаў».

Выкарыстоўваньне такой рыторыкі — гэта адмова ад аналітыкі і пераход да прапаганды і агітацыі.

Але зьвернемся да зьместу артыкула. Аўтар цешыцца, што «толькі Беларусь працягвае савецкую традыцыю ў сваёй дзяржаўнасьці... захавала пераемнасьць да савецкай гісторыі». Незразумела, у чым для краіны перавага апэляваньня да «саўка», да каляніяльнай спадчыны. Але далей ідзе проста выбітны пэрл: «Беларусы адзіныя, хто пасьлядоўна захавалі памяць аб сваёй рэальнай гісторыі».

Насамрэч, цяжка яшчэ знайсьці ў сьвеце народ з такой скалечанай гістарычнай памяцьцю, як беларусы. Па сусьветных мерках — гэта вельмі старажытны народ. Беларусы пражываюць на гэтай зямлі звыш тысячы гадоў. Напрыклад, 3 сакавіка споўнілася 950 гадоў гораду Менску. Нешматлікія сталіцы ў сьвеце могуць пахваліцца такой старажытнай гісторыяй. Але беларускае грамадзтва і дзяржава адлічваюць сваю гісторыю з 1917 году. Усе афіцыйныя беларускія сьвяты — савецкія. Як і помнікі, назвы вуліц, станцый мэтро і інш. Ствараецца ўражаньне, што да 1917 году тут, на гэтай тэрыторыі, ніхто ня жыў.

Катэгарычна пратэстуючы супраць таго, каб адлічваць незалежнасьць ад моманту зьяўленьня Рэспублікі Беларусь пры распадзе СССР, Шаўцоў прыводзіць такі аргумэнт:

«Дзень незалежнасьці па дэклярацыі на руінах СССР — гэта фікцыя, нейкі суіцыдальны акт, які кладзецца ў аснову дзяржаўнай ідэалёгіі... Гэта проста падтрымка палітыкі па развалу вялізнай дзяржавы знутры. Закласьці такую дату ў аснову дзяржаўнай ідэалёгіі незалежнай дзяржавы — гэта закласьці пэрспэктыву таго самага ў сваёй жа ўжо малой, але краіне».

Зазначу, што большасьць дзяржаў, якія сёньня існуюць у сьвеце, сталі незалежнымі ў выніку распаду імпэрый, у тым ліку каляніяльных. І менавіта гэты момант фіксуецца ў нацыянальнай гісторыі і гістарычнай памяці як велічны трыюмф нацыянальнага духу, прарыў да ўласнай дзяржаўнасьці, пункт адліку да новага самавыяўленьня соцыюму. Ва ўсім сьвеце гэта лічыцца актам нараджэньня, чаму ў беларускім выпадку — гэта акт суіцыду? Дзіўная лёгіка…

Нельга аспрэчваць, што 3 ліпеня — сапраўды важная для Беларусі дата. Яна адзначалася яшчэ ў савецкія часы. Гэты дзень можна вызначыць, напрыклад, як Дзень выратаваньня ад фашызму. Але пры чым тут дзяржаўная незалежнасьць? Такое ўражаньне, што Шаўцоў дрэнна разумее сэнс гэтай зьявы.

Галоўную небясьпеку для Беларусі Шаўцоў бачыць у нацыяналізьме. І асноўны патас артыкула — выкрыцьцё гэтай ідэалягічнай плыні і яе носьбітаў. Ён заклікае не паўтараць трагічны досьвед краін Усходняй Эўропы, якія заклалі ідэалёгію нацыяналізму ў падмурак сваёй дзяржаўнасьці. Чамусьці гэты досьвед Шаўцоў зьвязвае з забойствамі. Але відавочна, што аўтар вельмі ня любіць беларускі нацыяналізм і ўсяляк яго шальмуе. І з гонарам канстатуе: «Беларусы — адзіная нацыя ва Ўсходняй Эўропе, якая пабудавала дзяржаўнасьць не вакол нацыянальнага міту, які асэнсавана ствараецца сьвядомым колам. А вакол звычайнай нармальнай грамадзкай салідарнасьці, здаровага сэнсу, уладкаваньня нармальнага побыту на сваёй тэрыторыі. У канчатковым рахунку беларусы пабудавалі дзяржаву вакол праўды і дабрыні». Дадам ад сябе: а яшчэ за ўсё добрае, супраць усяго дрэннага і за мір ва ўсім сьвеце.

Будаваць нацыю на аснове здаровага сэнсу, уладкаваньня нармальнага быту, праўды і дабрыні яшчэ ніхто ў сьвеце не спрабаваў. Бо ўяўленьні пра здаровы сэнс, праўду і дабрыню ў розных людзей розныя. Гэта не каштоўнасьць, якая аб'ядноўвае насельніцтва ў нацыю. І гэта ня можа стаць духоўным змацаваньнем соцыюму. Уладкаваньне нармальнага быту ня можа быць ідэалёгіяй нацыетварэньня. Грамадзяне розных краін, засяляючыся ў гатэль, таксама ўладкоўваюць свой побыт.

Але галоўная небясьпека падобнага падыходу ў іншым. Адмова ад нацыянальнага міту адчыняе дзьверы для зьяўленьня тут іншага, чужога міту. Бо прырода не цярпіць пустаты. Ідэалягічнага, каштоўнаснага вакууму не бывае. Калі гэтая ніша не запоўненая адным мітам, то яе зойме іншы, канкуруючы міт. А які міт тут ляжыць на паверхні, лунае ў паветры, дамінуе ў інфармацыйнай прасторы? Правільна. Гэта ідэалягема «русского мира». Яна прасоўваецца праз расейскія тэлеканалы, расейскую культуру, расейскія інфармацыйныя плыні. Адмова ад беларускага нацыянальнага міту абяззброівае нацыю, адчыняе шлях для ўкараненьня тут расейскага міту, які, дарэчы, добра распрацаваны. Гэта аб'ектыўны працэс, які не залежыць ад жаданьняў, магчыма і шчырых, экспэртаў.

Таму насамрэч уся канцэптуальная пабудова Юрыя Шаўцова — гэта нішто іншае, як маніфэст «русского мира» ў Беларусі.

**Валер Карбалевіч**
**"Радыё Свабода"**

**Заснавальнік:** Салодкі Сяргей Аляксандравіч
**Рэдактар:** Шчамлёў Аляксандр Міхайлавіч

**Адрас рэдакцыі:** 211262, Шумілінскі раён, п/а Амбросавічы.
Тэл. 3-73-74, маб. +375299870742.
Газета выдаецца з верасня 2000 г.

**Падпісана да друку 16.07.2017 у 16.04**
Наклад: 290 асобнікаў.
Выдаецца адзін-два разы на месяц на беларускай і расійскай мовах.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў.
Друкуецца пры дапамозе аднадумцаў.
Распаўсюджваецца бясплатна дабраахвотнікамі.